Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 29 красавіка 1933.

# РОДНЫ КРАЙ

№ 9.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Найважнейшая справа.

Толькі-што ў Францыі прыняты нязвычайнае вагі закон у справе сярэдняга школьніцтва. Паводле гэтага закону навука ў сярэдніх школах Францыі будзе бясплатная, і гэтак нават дзеці найбяднейшых бацькоў атрымліваюць магчымасьць вучыцца ў іх.

Каб зразумець усё значэньне гэтага закону, трэба прыпомніць, што дагэтуль у Францускай рэспубліцы кожнае дзіця мусіла прайсьці праз гэтак-званую комунальную школу, адпавядаючую нашай сямігодцы. Такім парадкам ровень эдукаванасьці французаў у масе іх быў не ніжэйшы за ровень навучаньня ў комунальных школах, бясплатных і абавязковых для ўсіх. Цяпер, калі ў гімназіі і адпавядаючыя ім сярэднія школы іншых тыпаў нахлыне масова француская бедната, якая — з увагі на высокую плату за вучэньне — ня мела туды доступу, дык сам сабой падымецца і ровень эдукаванасьці народнае гушчы, і цэлыя масы сьвежых народных сілаў мецімуць магчымасьць атрымаць ня толькі сярэднюю, але й вышэйшую асьвету, і хто ведае, колькі новых высока ўталентаваных, а мо' і геніяльных адзінак прыйдзе на службу францускаму народу!

Французы, пэўне-ж, правільна ацанілі значэньне гэтага кроку для ўсяе францускае нацыі. Памянёны закон адкрывае новую эру у разьвіцьці культуры францускага народу і дасьць яму новыя творчыя сілы, гэтак неабходныя ў сучасны мамэнт.

Чытаеш вестку аб гэтым кроку Францыі, і ажно завісьць бярэ, калі падумаеш аб нашым беларускім жыцьці. Далёка нам яшчэ і да сямігодкі, якую на Беларускіх землях толькі рэдка можна сустрэць. Пераважае ў беларускай вёсцы тып 2—4 гадовае школкі, а калі прыпомнім, што яна да таго-ж вядзецца ў мала зразумелай для масы мове, дык ясна, што агульны ровень эдукаванасьці нашага народу мусіць быць страшэнна нізкі... А калі так, дык і ўсе нашы лятуценьні аб яснай будучыні нашае Бацькаўшчыны выдаюцца вельмі далёкімі ад іх зьдзейсьненьня: пакуль народ цёмны, дык ён ня здолее збудаваць сабе лепшае жыцьцё, адпавядаючае ягоным патрэбам і імкненьню да волі, і доля ягоная будзе цалком у руках другіх народаў, якія стаяць культурна вышэй за яго...

А ўсё-ж ёсьць і ў нас ясны праменьчык, які дае нам магчымасьць спадзявацца ў будучыні нечага лепшага. Гэта — нарастаючыя з году ў год нашы інтэлігенцкія сілы, кадры ня толькі павадыроў народных масаў і абаронцаў іх, але і творцоў беларускае нацыянальнае культуры, якая адна толькі і можа апраўдаць у вачох усяго сьвету нашыя імкненьні да самастойнага культурнага і палітычнага жыцьця. А сваю эдукацыю гэтыя сілы атрымліваюць толькі дзякуючы таму, што цьвярозая частка нашага грамадзянства, ня гледзячы на ўсе спробы зьнішчыць нашыя сярэднія школы, робленыя з самых рознародных бакоў, здолела захаваць пры жыцьці — на-жаль, толькі ўжо ў лічбе дзьвюх, — беларускія гімназіі. Калі-б іх нястала, дык і прыток новых інтэлігенцкіх сіл у нас мусіў-бы шмат зьменшыцца, бо толькі малая частка сягоньняшніх гадунцоў беларускіх сярэдніх школ здолела-бы прадаўжаць навуку ў школах небеларускіх. Утрата намі апошніх дзьвюх гімназіяў — у Вільні і Навагрудку — вярнула-б нас да старых даваенных часоў, калі беларускія дзеці, выходзячы з казённых расейскіх гімназіяў, цалком адрываліся ад роднага беларускага карэньня і дапамагалі чужацкай уладзе выкараняць беларушчыну...

А такая пагроза — не пустая, а зусім рэальная. З прычыны зганеньня вёскі лічба вучняў у беларускіх гімназіях шмат зьменшылася, раўнуючы да таго, колькі іх было пяць-шэсьць гадоў таму назад. І мала таго: нават тыя бацькі, якія могуць і хочуць даць сваім дзецям сярэднюю, а пасьля і вышэйшую эдукацыю, часта-густа шлюць іх у гімназіі небеларускія, думаючы, што мо' беларускія гімназіі ня будуць мець правоў ці наагул акажуцца ў палажэньні другарадных...

З гэтым усё беларускае сьведамае грамадзянства павінна вясьці самую рашучую барацьбу, пераконваючы бяз меры палахлі-

вых бацькоў, што беларускія гімназіі цяпер ужо такія-ж самыя дзяржаўныя і поўнапраўныя, як і польскія дзяржаўныя гімназіі, што беларускія матурысты ні ў чым не уступаюць матурыстам польскім ці іншым ды маюць роўны з усімі доступ у вышэйшыя школы— універсытэты і г. д. Хто пашле сваё дзіця ў родную беларускую гімназію, той ня толькі нічым не рызыкуе, але і мае пэўнасьць, што дзіця гэтае, выйшаўшы ў людзі, не забудзецца аб сваім народзе і сваей вёсцы, не адвернецца з пагардай ад сваіх сярмяжных бацькоў, а стане ім у кожнай прыгодзе і павядзе Беларусь да сьвятлейшае будучыні.

Бацькі! Шліце, хто толькі з вас дуж, сваіх дзетак у Беларускія Гімназіі, ня дайце ім заняпасьці, бо гэткі заняпад цяжка пакесьціўся-бы на жыцьці ўсяго нашага народу.

# Гаспадарчы аддзел.

## Ці варта садзіць бульву (топінамбур).

Бульва ёсьць расьлінаю, якая вашай вёсцы ёсьць добра знаёмаю, але нажаль мала пашыранаю. Ня гледзячы на тое, што клубні яе маюць у сабе болей вады і менеи бялку, чым клубні бульбы, аднак яна ёсьць кармавою расьлінай мала ўступаючай бульбе. Перш за ўсё клубні бульвы ёсьць страўнейшыя і смачнейшыя за клубні бульбы. Па другое, бульба, чым болей ляжыць, тым болей траціць на сваёй кармавой якасьці, тагды як бульва, пакінутая ў зямлі да вясны, становіцца яшчэ смачнейшаю. Апрача гэтага бульва дае нам і іншыя выгады ў параўнаньні з бульбаю. Найважнейшая яе дадатняя якасьць — гэта тая, што яе, як ужо гаварылася, можна ўвосені не выбіраць, а пакінуць у зямлі. Дзякуючы гэтаму, ня толькі з ёю меней турботаў, але і няма тых стратаў, якія бываюць у бульбы падчас перахоўваньня. Увясну, калі ў нашай вёсцы выяўляецца такая патрэба корму, асабліва сачыстага, — бульва гэту патрэбу найлепей заспакойвае і дзеля гэтага магла-б быць вельмі карыснаю расьлінаю ў нашых гаспадарках. Апрача клубняў, на корм жывёле могуць быць скарыстаны лісьці і сьцеблы бульвы, але толькі пасьля заквашаньня ў ямах. Можна такосама і без заквашаньня ўжыць лісьці і малодшыя сьцеблы бульвы на корм, але толькі для авец.

Што-ж датычыцца глебы, то бульва зьяўляецца малавымагаючаю расьлінай. Яе могуць здаволіць глебы горшыя і плытчэйшыя за тыя, якіх вымагае бульба. Тымчасам залішняя вільгаць ёй шкодзіць, але затое сушу бульва пераносіць добра. Агулам кажучы, бульва патрабуе зямлі пульхнай і на глебах залішне зьвязных не ўдаецца. Бульва вельмі ўдзячная за гнаеньне хлеўным гноем або кампостам. Калі-ж яна трымаецца на адным кавалку поля даўжэйшы час, то неабходным становіцца прыгнойваць і штучнымі гнаямі.

Пасадка бульвы нічым не адрозьніваецца ад пасадкі бульбы. Звычайна яе садзяць у рады, на 50 цэнтыметраў ад сябе аддале-

# ЯДВІГІН Ш.

### (Антон Лявіцкі).

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

(Працяг).

Другім важным мамэнтам у жыцьці А. Лявіцкага зьяўляецца побыт яго на навуцы ў Марцінкевічаў. Бацька пісьменьніка быў знаёмы з сям'ёй Марцінкевіча, які жыў недалёка ў Люцынцы, і, паразумеўшыся з дачкой Марцінкевіча, аддаў туды сына на навуку. Д.-Марцінкевіч, пасьля паўторнага жанімства ў 1858 годзе з удавой Гружэўскай, жыве стала ў Люцынцы. Сам фальварак Люцынка ляжыць над ракой Люцынкай, прытокам Іслачы, у маляўнічай ваколіцы. У Люцынцы панавала атмасфэра артызму й шляхотных шляхоцкіх традыцыяў. Сам Д.-Марцінкевіч быў знаёмы з многімі тагачаснымі, пераважна польскімі, пісьменьнікамі й навуковымі працаўнікамі, якія, магчыма, бывалі ў яго, у Люцынцы. Ваколічная-ж шляхта бывала ў яго часта. Вучыўся Антон Лявіцкі ў дачкі Марцінкевіча, як сам кажа пасьля, у 1877-8 гадох (восеньню і зімой). Вось што кажа аб гэтых часох сам пісьменьнік: «Дачка яго (Марцінкевіча) вучыла невялічкую грамадку дзяцей. Было

8

там хлопчыкі й 8 дзяўчынкі (гл. «Лісты з дарогі»). Учылі нас там парасейску, папольску, пафранцуску, вучылі рожных навук, але ані гісторыі Беларусі, ані нават беларускае мовы мы ня чулі. Мо' гэтага нашы бацькі не вымагалі, мо' нават не хацелі, але ўсё-ж такі ў дзіцячай памяці (а былі паміж нас і ладныя падросткі), як на мяккім воску, песьняр беларускі павінен быў сваю пячатку выціснуць. Марцінкевіч гэтага не зрабіў. Мы нават яго твораў ня ўмелі. Калі-ж, бывала, прыяжджалі суседзі госьці, то чулі мы, як толькі зрэдка перакідываліся яны з гаспадаром, быццам жартам, беларускімі слоўцамі, як гэта й цяпер вядзецца паміж дробных памешчыкаў (да каторых прыналежаў і Марцінкевіч), калі хочуць паказаць сваю дружбу, сваё «запанбрацтва». «Умеў нябожчык заахвочываць нас да навукі, умеў строіць жарты, быў для нас вельмі добрым; любілі і шанавалі яго акалічныя сяляне й суседзі, але з пісаньнем сваім, з думкамі сваімі ад усіх запіраўся ў каморку» («Наша Ніва», № 48, 1910 г., стр. 734).

Такім чынам, вучэньне ў Марцінкевічаў было рознабокае. Часта бывалі й госьці, з якімі сядзелі за сталом і дзеці. А ад гасьцей мог малы Антон Лявіцкі шмат чаго пачуць... У другім мейсцы, у «Лістох з да-

ныя, і на 30 цэнтымэтраў адлегласьці адна бульва ад другое ў радзе. Таксама, як у бульбы, пасеў бульвы барануецца і робіцца асыпаньне. Бульва расьце шыбка і глебу добра заценяе, а дзеля таго ня вельмі баіцца пустазельля. Бульву выбіраюць вясной, або ўвосені, а таксама і садзіць яе можна ў гэтыя часы.

Дзеля таго, што бульва можа колькі гадоў падрад на адным мейсцы даваць добрыя ўраджаі, яе ня ўводзяць у севазварот, а садзяць яе на асобных кавалках поля ці па розных закутках у гародзе ці паміж будынкамі.

## Падбайма аб сваіх сенажацях.

Тая нястача корму, з якою кожнае вясны сустракаецца наш селянін, здаецца, павінна была-б ужо навучыць яго, як гэты корм здабываць. Тымчасам гэтага няма. З сенажацяў селянін наш фактычна зьбірае найбольшую частку свайго кармавога запасу, але аб палепшаньні тых-жа сенажацяў амаль што зусім і ня думае. Сенажаці яго запушчаныя і з году ў год даюць усё меншыя ўраджаі. Аднак, калі-б гэтыя самыя сенажаці мелі сякі-такі дагляд, колькасьць і якасьць іх была-б, бязумоўна, вышэйшаю. Калі селянін хоча, каб яго сенажаці давалі большую карысьць, дык павінен трымацца наступных загадаў:

1) Старацца, каб сенажаць ня была залішне вільготнаю, а дзеля таго лішнюю ваду трэба спушчаць пры дапамозе равоў і каналаў.

2) Паверхня сенажаці павінна быць роўная, каб ня было ні купін, ні кратовішч або мурашнікаў. Таксама ўсе кусты павінны быць выцераблены і выкарчаваны.

3) Ня пушчаць жывёлы на сенажаці вясною, што ў нас амаль усюды робіцца.

4) Кожнае вясны або восені асьвяжаць дзірван баранаваньнем.

5) Гнаіць сенажаці добра перагніўшым дробным хлеўным гноем або кампостам. Таксама добра гнаіць і хлеўнаю жыжкаю, калі такая ёсьць. З штучных гнаёў найпарост сенажацяў найболей уплываюць паташовыя гнаі (можа быць каініт). Сенажаці кіслыя патрабуюць значную колькасьць вапны. Часта сенажацям нестаець і фосфарных гнаёў. З хатніх адпадкаў добра ўплывае на сенажаці попел.

6) Калі сенажаці вельмі запушчаныя і належнага ўраджаю дасягнуць звычайнымі заходамі трудна, то тагды трэба сенажаць загараць і патрымаць яе колькі гадоў пад палявою культурай, а пасьля можна засеяць траву.

7) Важнай таксама бывае і пара, у якую мы сенажаці косім. Касіць трэба тады, як сенажаць найболей укрыта цьветам, і ніколі ня можна дапушчаць, каб яна перастаялася. Перастаяўшаяся трава мае малую кармавую вартасьць.

Калі ўсе гэтыя загады і ня будуць цалком выпаўнены, а селянін у гэтым кірунку хоць штосьці пачне рабіць, то ўсё-ж такі можна спадзявацца на павялічэньне ўраджаю.

С. А.

---

рогі» (1910 г.), Ядвігін Ш. крыху йнакш прадстаўляе часы, праведзеныя ў Люцынцы. Там мы даведываемся, што Марцінкевіч свой уплыў, можа пасрэдна, усё-ж зрабіў на яго. Вось што піша Ядвігін Ш. у «Лістох з дарогі», калі ён, трапіўшы падчас падарожжы ў знаёмую Люцынку, аддаўся ўспамінам:

«Шмат з таго часу вады ўплыло, шмат! Шасьцёра нас там было: тры дзяўчынкі (адна з іх ужо ў магіле) і тры хлопчыкі; я быў найменшым — гадкоў сем меў; вучылі нас розных навук, нават музыкі. Наша вучыцелька (вечны ёй ужо пакой) і яе бацькі так умелі падахвочываць нас да навукі, што кожны з нас наперабой браўся да яе. Гэта было ў 187... гаду ў фальварку першага беларускага песьняра—Вінцука Марцінкевіча—Люцынцы. Памятаю я і Люцынку і яе гаспадара: старэнькі ўжо тады быў, але надта добры, вясёлы, жартаблівы. Памятаю і вялікі куфэр, у каторы хаваў ён свае пісаньне, паўнюсенькі быў, але мала выйшла з гэтага пісаньня адтуль у сьвет: па сьмерці Марцінкевіча стары дом згарэў, пайшла з дымам і большая палова твораў гэтага заслужонага для нашай бацькаўшчыны чалавека. Дзіўлюся я цяпер, як мог ён столькі працаваць, пісаць, калі цалюсенькі дзень у гэтым самым доме дзеці—адны барабанілі на фартэпʻяне, другія—галасілі над кніжкай, іншыя—дурэлі; музыка, сьмех, гоман, крык, а ніколі, бывала, слоўца благога не сказаў, ні ён сам, ні яго жонка-старушка, ні дачка — наша вучыцелька. Любілі яны нас — чулі гэта нашыя дзіцячыя душачкі, дык і мы іх з усяго сэрца кахалі, шанавалі, як родных бацькоў. На кожны важнейшы, бывала, дзень—нябожчык пісаў для нас усіх — дзяцей — якую-колечы камэдыю, мы яе вучыліся, зьяжджаліся госьці, і ішло прадстаўленьне. Памятаю доўгіе восенные вечары... памятаю цікавые апаваданьні аб роднай бацькаўшчыне і аб далёкіх халодных краях, куды злая доля заганяе шмат людзей. Зьбіўшыся ў кучку, слухаем мы гэтыя дзівы, а нябожчыца, жонка песьняра, ціхачом уцірае сьлязіну; шчымелі нашы сэрцы, у грудзёх нешта бунтавалася. (Гэта, пэўне, былі апаваданьні пра паўстанцаў). Але скончылася тут наша навука: нас паразвозілі да бацькоў. Цяпер, ідучы, калі здалёку ўгледзіў я Люцынку, таксама, як некалісь-некалісь, зашчымела маё сэрца, у грудзёх нешта бунтавалася, але ўжо не кулакі заціснуліся, а толькі скацілася па твары сьлязіна.“—„Бывае,надходзяць думкі — іншы раз вясёлыя, то зноў — сумныя, але такія дарагія, такія патайныя, што чалавек ажно аглядаецца, быццам баішся,

**Папраўка.** У папярэднім нумары „Р. К.“ у гаспадарчым аддзеле, там, дзе гаворыцца аб прыгатаўленьні „бардоскае жыжкі“, сталася друкарская памылка, а іменна: прапушчана адна складовая частка бардоскае жыжкі— 1 кг. сіняга каменя.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Ад рэдакцыі.** З прычыны таго, што ў трэцім тыдні красавіка прыпадалі сёлета вялікодныя сьвяты аднačасна ў хрысьціян і ў жыдоў, выхад другога красавіковага нумару „Роднага Краю“ мы былі прымушаны перанесьці з трэцяга, як звычайна, тыдня на чацьверты, што, аднак, зусім не адаб'ецца на лічбе выпусканых кожын месяц нумароў.

**У беларускіх Гімназіях.** Як нас інформумуюць,—уступныя экзамены ўва-ўсе клясы ў Віленскай і Навагрудзкай Беларускіх гімназіях адбудуцца: вясною ў пачатку чэрвеня і ўвосені—у канцы жніўня. Першых дзьвюх клясаў у гэтых гімназіях на наступны год згодна з новым законам ужо ня будзе. У III кл. прыймацьмуцца дзеці, якія скончылі 6 адд. пачатковае школы на падставе пасьведчаньня і праверачнага экзамену з беларускае мовы, арытмэтыкі, польскае мовы і прыроды. Тыя, хто ня мецьмуць пасьведчаньня аб сканчэньні 6-ці аддзелаў, павінны будуць здаваць экзамен з усіх прадметаў. У вышэйшыя клясы прыймаюцца на падставе пасьведчаньняў з поўнапраўных прыватных ці дзяржаўных гімназіяў і на падставе ўступных экзаменаў у іншых выпадках. Пры гімназіях існуюць інтэрнаты.

Праграму з беларускае мовы можна атрымаць з канцэляріі гімназіяў за паштовую марку на перасылку.

**Агульны Гадавы Сход Беларускага Дабрадзейнага Т-ва** адбудзецца ў памяшчэньні Віл. Бел. Гімназіі 12 мая ў 5 гадз. папал. у першым терміне, або ў 6 гадз. — у другім. Парадак дня наступны: 1) справаздача Ураду і Рэвізыйнае Камісіі; 2) плян дзеяльнасьці на наступны год; 3) справа інтэрнату; 4) выбары новага Ураду і Рэвіз. Камісіі і 5) бягучыя справы.

**Віленскія рыначныя цэны на прадукты і збожжа.** Яйкі 3 зл. капа. Масла выбаровае — 2 зл. 90 гр. гуртовая цана, 3 зл. 30 гр. дэт. Масла 2-га сорту — 2 зл. 20 гр. гурт., 2 зл. 50 гр. дэт. Саланіна сьвежая 1,60—1,80 гр. салёная—1 зл. 80 гр.—2 зл. Жыта — 20 гр. кгр. Авёс—14 гр. кгр. Ячмень—15 гр. кгр.

## На правінцыі.

**З Пружаншчыны.** За апошнія часы ізноў

---

каб хто не падслухаў, не падгледзіў, не дагадаўся іх, бо іх ведаць ніхто не павінен— ніхто»... («Наша Ніва» № 35, 1910 г.).

Апошнія словы даюць повад думаць, што будучы пісьменьнік, маючы ўжо ня 7, а 11—12 гадоў, перажыў у Люцынцы нешта глыбокае. Можа гэта было першае дзяцінпае каханьне? Можа тут ужо зачаравалі яго —«як васількі, вочы»? Можа гэта была Ядвіга? І адсюль пасьля паўстаў псэўдонім пісьменьніка?

Параўноўваючы ўспаміны Ядвігіна Ш. аб Люцынцы з № 35 і № 48 «Нашае Нівы» (1910 г.), мы знаходзім, паміма новых дэталяў, пэўныя супярэчнасьці. Гэтыя супярэчнасьці зразумелы будуць, калі мы дапусьцім, што, пішучы ў Люцынцы «Лісты з дарогі», Ядвігін Ш. ужо дакладна не памятаў, калі ён быў у Люцынцы. Году дакладна ён не падае (187...?), у другім мейсцы ён кажа, што гэта было «некалісь-некалісь, шмат вады ўплыло з таго часу, шмат!», гэта ўсё сьведчыць што пісьменьнік ужо прызабыўся, успаміны ў яго ёсьць, але дакладна сказаць, калі гэта было, ён ужо ня можа. Тады трэба дапусьціць, што Ядвігін Ш. ня меў 7 гадоў, як ён піша, тым балей, што прадметы, якіх яго вучылі ў Люцынцы, а таксама пачуцьці й разуменьне важных справаў хлапца перавышаюць век 7 гадоў. У 7 гадоў у яго напэўне кулакі не заціскаліся-б!.. Калі-б мы не зрабілі гэтага дапушчэньня, то дата нараджэньня Ядвігіна Ш' (1866) ізноў была-б пад знакам запытаньня На пацьвярджэньне правільнасьці гэткага выхаду з супярэчнасьці будзе дапушчэньне, што артыкул Ядвігіна Ш. „W. Marcinkiewič u praktyčnym žyćci“ (Наша Ніва“ № 48, 1910 г.) быў абапёрты на запісках, або запісаных ужо раней успамінах.

Такім чынам, Ядвігін Ш. атрымаў хатнюю пачатковую асьвету, што тады было ў звычаі. Але побыт у Люцынцы, апрача здабыцьця першае навукі, меў іншае вялікае значэньне для будучыні Ядвігіна Ш. Усё, што ён чуў і бачыў у Люцынцы, магло пабудзіць Ядвігіна Ш.: 1) наагул да пісаньня і 2) да пісаньня пабеларуску. Бо-ж камэдыі, якія дзеці гулялі ў доме Марцінкевіча, былі пісаны, калі ня выключна, то прынамся часткова пабеларуску. Гэта-ж Марцінкевіч пропагуе ідэю пісаньня ў беларускай мове, кажучы: „беларускі селянін, бачачы кніжку ў роднай мове, ахвотней яе чытае й дзетак ахвотней прыцягае да асьветы“ („Dudarz Białoruski“, Менск, 1875 г.).

Выхаваньне й узгадаваньне А. Лявіцкага дома было наагул шляхоцкае. „Ядвігіна Ш., як кажа А. Навіна, гадавалі на „пана“, прышчапляючы яму пачуцьцё „вышэйша-

**зачынены цэлы рад мяйсцовых гурткоў Т. Б. Ш., ня гледзячы на тое, што ў суседнім Беластоцкім ваяводзтве праца Т. Б. Ш. разьвіваецца даволі свабодна. Не пашчасьціла на груньце Пружаншчыны і новастворанаму Таварыству Беларускае Асьветы (Т. Б. А.): калі ўпаўнамочаны Т. Б. А. зьвярнуўся да старостa з просьбай аб дазвол на ўладжаньне беларускае публічнае лекцыі на тэму: Абавязкі і правы беларусаў у Польшчы, дык староста ня толькі адмовіў у дазволе, але і затрымаў рукапіс лекцыі. Дык ня дзіва, што сумныя настроі панавалі сярод пружанцаў на мінулыя Вялікодныя Сьвяты.**

**Аднак, сярод больш сьвядомых і актыўных беларусаў безнадзейнасьці няма: гэтулькі ўжо ўсялякіх перамен ім давялося перажыць, што і сучасны стан яны лічаць ня вечным. А пры першай магчымасьці тая беларуская культурная праца, якая гэтак буйна расьцьвітала тут колькі гадоў назад, ажывіцца і закрасуе нанова.**

**Тутэйшы.**

## У Латвіі.

**Госьць з Літвы. У Рыгу—у госьці да тутэйшых беларусаў—прыяжджаў ведамы літоўскі дзеяч праф. М. Біржышка, найбольш прыхільны да беларускае справы спасярод літоўскага грамадзянства. Праф. Біржышка прачытаў вельмі цікаўную публічную лекцыю.**

**Пасьля адбыўся бэнкет, падчас каторага пр. Біржышка вёў шчырыя гутаркі з беларусамі аб найбольш пякучых у гэты мамэнт справах беларускага і літоўскага жыцьця.**

## Б. С. С. Р.

**Зачыненьне „Савецкае Беларусі" ў Менску. У Менску спыніў сваё жыцьцё часопіс „Савецкая Беларусь", вялікі палітычна-соцыяльны орган, які выходзіў пабеларуску. Газэты дадаюць, быццам гэтая „мера" стаіць у сувязі з далейшым завастрэньнем палітыкі „адбеларушчываньня" Беларусі, якую сыстэматычна праводзіць новая „лінія Сталіна".**

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Прэзыдэнцкія выбары ў Польшчы. 8 мая гэтага году маюць адбыцца ў Польшчы выбары новага прэзыдэнта—на мейсца канчаючага сваё паўнамоччa п. Мосьціцкага.**

**Як пішуць газэты, дагэтуль намечаны два кандыдаты: сучасны Прэзыдэнт п. Мосьціцкі і прэм'ер Прыстор. Першы з кандыдатаў, аднак, быццам ня даў яшчэ згоды на сваю кандыдатуру. Характэрна для пануючых у Польшчы палітычных стасункаў, што ўсе 4 галоўныя польскія партыі опозыцыі: эндэцыя, пэпээсы, хадэкі і людоўцы—заявілі ў адзін голас, што іх паслы і сэнатары ня прымуць зусім учасьця ў выбарах прэзыдэнта**

сьці" шляхты над „мужыкамі", пачуцьцё пагарды да людзей, як'ія фізычнай працай здабываюць хлеб і сабе і „паном"... „І гэтае пачуцьцё, як кажа далей А. Навіна, не замерла ў ягонай душы праз усё жыцьцё". Бадунова ў успамінах, рысуючы Ядвігіна Ш. з часоў, калі ён быў вядомым пісьменьнікам і меў за сабой шмат грамадзкае дзеяльнасьці, кажа: „ня мала спрачаўся ён з намі, маладым пакаленьнем, шмат чаго горкага казалі мы адзін другому".

Далей мы бачым А. Лявіцкага ў Менску, (а ня ў Вільні, як піша д-р І. Дварчанін у „Хрэстаматыі"), дзе ён вучыцца ў гімназіі. М. Пятуховіч у вышэйуспомненай стацьці аб Ядвігіне Ш. кажа, што ён, ня скончыўшы гімназіі, выехаў у Маскву, дзе, праўдападобна, здаў экзамен экстэрнам на „атэстат зрэласьці" і паступіў на мэдыцынскі факультэт Маскоўскага унівэрсытэту. Гэтыя весткі аднак, здаецца, ня згодны з праўдай. Найпраўдападобней справа выглядае наступна: У пачатку восемдзесятых гадоў (1880—1) А. Лявіцкі паступае ў Менскую гімназію (магчыма ў 2 клясу). Там скончыў 4—5 клясаў (1888—4), паступае не пазьней 1884 г. на практыку ў аптэку (або ў Менску, або ў Радашкавічах). Па адбыцьці практыкі ў аптэцы (2 — 3 гады), ён едзе ў 1886 або 1887 годзе ў Маскву, каб там, праслухаўшы пры мэдыцынскім факультэце курс фармацэўтыкі, здаць пасьля экзамен на правізара. У тыя часы на фармацэўтыку прыймалі кожнага, хто меў скончаныя 4 клясы гімназіі (пасьля ўжо толькі было падвышана да 6-ёх) і адбытую практыку ў аптэцы, як вучня. Ядвігін Ш. на мэдыцынскім факультэце ня быў. Пасьля выхаду „Uspaminaй" Ядвігіна Ш. адна асоба, добра знаўшая яго, зьдзівілася, што ён там сябе лічыць студэнтам *). Бо фармацэўты ў той час былі «студэнтамі» ў чужаслове. Калі нехта пытаўся, дзе той ці іншы вучыцца, і атрымліваў адказ, што на фармацэўтыцы, дык адразу шмат памяншалася яго «студэнцтва».

(Працяг будзе).

*Хведар Ільяшэвіч.*

*) Аб гэтым мне расказаў гр. А. Луцкевіч. Прозьвішча тае асобы ён ужо не памятае.

3 мая, у 10 гадз. раніцы, у салі Белар. Філіі „Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Словацкага (Вострабрамская 9) адбудзецца агульны гадавы сход коопэратыву «**СПУЛДЗЕЛЬЦА**».

Навет некаторыя опозыцыйныя органы прэсы асуджаюць такую нячуваную дэманстрацыю.

**З вясковa-работніцкага жыцьця.** Як ведама, зямляўласьнікі ў шмат якіх мясцовасьцях—уразрэз з пастановай палюбоўнае камісіі міністэрства працы і соцыяльнае апекі— самавольна зьмяншаюць плату сваім „афіцыялістам" і работнікам-батраком. У сувязі з гэтым Саюз Сельска-гаспадарскіх Работнікаў зьвярнуўся да п. п. старостаў з дамаганьнем, каб былі пацягнены да ўгалоўна-адміністрацыйнай адказнасьці гэтыя зямляўласьнікі-працадаўцы за „зласьлівае затрыманьне заработаных работнікамі грошаў".

**Новыя вэксальныя бляні.** Хто мае старыя вэксальныя бланкі, якія ўзяты ўжо з абегу ад 1 красавіка, можа выкарыстаць іх да 1 траўня. Ад 1 траўня (мая) за выстаўленьне вэксаля на такім старым бланку будзе брацца крыху большая „штэмпльовая аплата". Новыя бланкі маюць вадзяны знак (на прасьвет) „Рэчпаспаліта Польска" і дзяржаўны гэрб Польшчы.]

## За граніцай.

**Нарады ў Рузвэльта.** Перад міжнародавай гаспадарчай канфэрэнцыяй, якая мае ў чэрвені адбыцца ў Лёндане, прэз. Рузвэльт запрасіў да Вашынгтону на папярэднюю нараду прадстаўнікоў блізу ўсіх дзяржаваў сьвету. Ад Англіі і Францыі паехалі Мак-Дональд і Эрыё, спэцыяльна запрошаныя Рузвэльтам; рэшта дзяржаў, у тым ліку Польшча, мае быць прадстаўлена сваімі пасламі ў Амэрыцы. Цяпер ідуць гутаркі паміж гэтай „буйнай тройкай", але да нейкай супольнай праграмы дайсьці будзе вельмі цяжка.

**Барацьба паміж даларам і фунтам.** Як ведама, ня так даўно крызіс зламаў моцную англійскую валюту, фунт стэрлінгаў (нормальна каля 5 даляр., ці 10 залатых расейскіх рублёў), зьменшыўшы яе вартасьць блізу на 20%. Гэтае частковае банкруцтва такой салідная ды гордай дзяржаўна-комэрцыйнай фірмы, як Англія, балюча ўдарыўшы яе па гонару, дало яе прадукцыі дый міжнародаваму гандлю вялізарныя карысьці, бо зьменшыла кошты прадукцыі (плату работнікам і г. д.), а тым самым павялічыла, як кажуць, здольнасьць канкурэнцыі яе тавараў на міжнародавым рынку. Такім чынам, спасярод вялікіх валют, маючых сусьветнае значэньне, блізу толькі адзін амэрыканскі доляр стаяў на даваенным роўні, ствараючы для амэрыканскай прадукцыі, якая і без таго была заўсёды найдаражэйшай у сьвеце, выняткова нявыгаднае палажэньне на сусьветным рынку. Спадак англійскае валюты асабліва цяжка ўдарыў па Амэрыцы, бо-ж Англія зьяўляецца найбольш небясьпечным для Амэрыкі канкурэнтам яе на сусьветным рынку. Крызіс у Амэрыцы дзеля гэтага яшчэ больш паглыбіўся. Дык вось прыйшоў чарод і на, здавалася-б, непахільны, усемагутны доляр.

Але розьніца ў тым, што „банкруцтва даляра" мае цалком сьведамы — „зласьлівы" характар. Бо-ж так-званага „залатога запасу", ці „пакрыцьця" Валютны Банк Амэрыканскіх Штатаў мае аж залішне многа. Новы прэз. Рузвэльт, каб захістаць сваю валюту, надрукаваў адразу на тры мільярды новых даляровых паперак — „на падтрыманьне сельскае гаспадаркі", на пазыкі хлебаробам. Тады людзі і ўстановы на ўсім сьвеце, якія трымалі свае маемасьці ў далярах, настрашаныя пагрозай „інфляцыі" (як гэта было ў нас з польскай маркай), пачалі выкідаць даляры на рынак. Але — ня ведама навет дагэтуль, што ўласьціва хоча зрабіць Рузвэльт: ці сам на-стала зьнізіць доляр, ці толькі напстрашыць Англію, каб устабілізавала свой фунт на вышэйшым, карысным для амэрыканскага замежнага гандлю, роўні. Бо-ж у Вашынгтоне, дзе сядзіць госьцем у „Белым Доме" (сядзіба прэзыдэнтаў) Мак-Дональд, ідзе ўсьцяж паміж імі зацятая барацьба: адзін аднаго хоча змусіць, каб першы сказаў, на якім роўні ён устабілізуе сваю валюту. А тым часам доляр хістаецца, выклікаючы „валютныя буры", банкруцтвы і крахі на ўсім сьвеце, бо-ж, як ведама, кожнаму з нашых чытачоў, доляр даўно стаўся запраўднай сусьветнай, міжнародавай валютай. Трэба думаць, аднак, што ў хуткім часе да паразуменьня між Англіяй і Амэрыкай дойдзе, і доляр будзе ўстабілізаваны. Але трэба думаць, што доляр да нармальнае вартасьці ў бліжэйшы час ня вернецца, а будзе ўстабілізаваны на роўні ніжэйшым, больш карысным для амэрыканскага замежнага гандлю. Усе, хто мае даляры, страцяць каля 10-20% свайго капіталу. Але наагул спадак гордага даляра будзе мець і добрыя вынікі, распачаўшы няўхільны працэс стварэньня новай валютнай раўнавагі ў сьвеце. А гэтай задачай якраз у першую чаргу і мае заняцца вялікая міжнародавая гаспадарчая канфэрэнцыя, якая мае сабрацца ў сярэдзіне году, і да якой падрыхтаваўчая нарада адбываецца цяпер якраз у Вашынгтоне.

**„Нямецка-літоўская мытная вунія".** З Коўны пішуць, што літоўскі ўрад разглядае прапазыцыю нямецкага ўраду—аб стварэньні нямецка-літоўскае мытнае вуніі. Гэтая вунія мае быць першым крокам да стварэньня „літоўска-беларуска-украінскай дзяржавы" — паводле праекту Гітлера...

**„Украінская праграма" Гітлера.** Газэты даюць далейшыя весткі аб „праграме" акцыі Гітлера на Усходзе Эўропы. Найбліжэйшы прыяцель Гітлера, Розэнбэрг, якому даручана распрацаваць дэталёва гэтую „праграму", толькі-што выклажыў перад амэрыканскімі журналістамі ў Бэрліне свае і гітлеравы думкі і намеры ў гэтым напрамку. Першай і канчальнай мэтай усей гэтай акцыі Розэнбэрг ставіць зьніштажэньне расейскага камунізму шляхам падзелу СССР, вызваленьня с-пад улады бальшавікоў паняволеных наро-

даў, у першую-ж чаргу — украінцаў і беларусаў. Дзеля гэтай акцыі Нямеччына павінна стварыць вольны „калідор“, ці „мост“ для сябе праз Вэнгрыю, Усх. Галіцыю, румынскую Букавіну—у Савецкую Украіну. Для падрыхтоўкі гэтае акцыі ўжо закладзена цэнтраля ў... Чарнавіцах (Букавіна)...

**Працэс англійскіх інжынераў у Маскве.** У Маскве толькі што закончыўся вялікі „паказальны працэс“ англійскіх інжынераў, якіх савецкі ўрад вінаваціў у „шкодніцтве“ — замест карыснае працы, у шпіёнстве, подкупе савецкіх інжынераў і т. д., усё гэта ў мэтах саботажнай барацьбы з савецкай уладай—па загаду англійскага ўраду і міжнародавага капіталу... На працэсе блізу ўсе падсудныя „прызналіся“ да сваіх „праступленьняў“. Але, ня гледзячы на гэта, прысуд вынесены нячувана лагодны: ніводнае кары сьмерці—навет для „сваіх“, а галоўным „правадыром змовы“, англійцам — па некалькі гадоў вастрогу, але й то, здаецца, толькі для формы. Бо-ж, як спадзяюцца, усе англійцы будуць „пакараны“—высылкай з межаў СССР у Англію... Прысуд адразу залагодзіў напружаныя адносіны між Англіяй і СССР, і распачаўшаяся ўжо „гаспадарчая вайна“ між імі мае быць спынена. Савецкаму ўраду страшэнна нявыгадна сварыцца з Англіяй у часе пагражаючага рашучага канфлікту з Японіяй...

**На далёкім Усходзе.** Японія яўна хоча залагодзіць стасункі з Кітаем, каб усе сілы кінуць на СССР, з якім спрытна падтрымлівала „прыязныя“ адносіны, пакуль вяла рызыкоўную барацьбу з Кітаем. Мэта Японіі — зусім ясная: трэба рашуча зьніштожыць тую сталую небясьпеку, якой для японскай Манчжурыі зьяўляюцца Далёка-Усходнія валадзеньні СССР. Таму вельмі праўдападобнай зьяўляецца вайна з СССР, якая можа лёгка даць Японіі ўсю Прыморскую Обласьць, разам з Уладзівастокам, другую палову Сахаліну і т. д.

Падзеі на Усходня-Кітайскай чыгунцы, з адкрытага пачыну Японіі, яўна правакуюць вайну. З другога боку намячаецца супрацоўніцтва Кітаю з Японіяй у барацьбе проці Савецкага камунізму. Чанг-Кай-Шэк зьвярнуўся быццам да прэз. Рузвэльта з просьбай, каб той выступіў пасярэднікам у мірным паразуменьні Кітаю з Японіяй — дзеля барацьбы з СССР.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

**Тэлескоп-волат.** У астрономічнай обсэрваторыі ў Каліфорніі (Паўн. Амэр.) заканчываецца ўстаноўка новага — найвялікшага ў сьвеце—тэлескопу. Люстра гэтага тэлескопу, у якім адбіваецца зорнае неба, мае аж 5 мэтраў у папярэчніку. Гэты тэлескоп будзе „набліжаць“ да вашага вока зоры ў паўтара мільярда разоў. Таму ў яго люстры можна будзе ўбачыць шмат новых зораў. Дагэтуль пры помачы найсільнейшых тэлескопаў налічана да 800 мільёнаў. Новы тэлескоп дасьць магчымасьць яшчэ шмат глыбей заглянуць у бяздоньне акружаючага нас сусьвету.

# Паштовая скрынка.

**Карэспандэнтам у Бакуnох.** На Палескае ваяводзтва наша праца пакуль што не пашыраецца: статут зацьвярджаны толькі на ваяв. Віленскае і Наваградзкае. Пашырайце пакуль што газэту, паглыбляйце сведамасьць нацыянальную.

**Ул. Ляшчыне (Палесьсе).** Ваша думка аб арганізацыі масавае раскопкі курганоў добрая, але выпаўніць яе ня так лёгка. Перад усім дзеля гэткае працы патрэбны людзі, якія здолелі-б ня толькі раскапываць, але й апісываць раскопкі так, як гэтага вымагае навука, каб ня эглуміліся тыя памяткі нашае мінуўшчыны, што хаваюцца пад зямлёю. Да таго ж права на раскопкі мае ня кожны, і на гэтай падставе адміністрацыйныя ўлады маглі-б перасьледаваць тых, што капалі-бы.

**М. Я—ну (у Іодах).** Вашы інфармацыі аб няслаўнай дзеяльнасьці сэкрэтара гміны, аб тым, як гмінны конь прымушаны „дзяліцца“ аўсом з скацінай сэкрэтара, а замест купляных гмінай новых прыладаў у складзе аказваюцца старыя і г. д., — вымагаюць дакумэнтальных даных аб тым, што справа пайшла да вышэйшых уладаў.

**Гр. Селуню.** Адмову вашу прыймаем да ведама, як слушную. Пашукайце замест сябе адпаведнага чалавека. Варункі: каб меў ня меньш 25 гадоў веку, каб быў чысты судова і зусім неангажаваны палітычна, а таксама каб быў добра граматны, акуратны і чэсны. Статут быў уложаны ў незаклееены канвэрт, каб танней плаціць за перасылку.

**Гр. Тад. Рыбінскаму.** Просьба ваша слушная: ад гэтага нумару мы будзем зьмяшчаць табліцу цэнаў на прадукты вясковага вырабу на віленскім рынку. Канвэрт быў не заклееены—у ім быў толькі статут.

**Гр. Я. Пятроўскаму.** Згодна з вашым лістам, высылаем часопіс усім пералічаным вамі падпішчыкам на ваш адрас. Але было-б лепш, каліб заінтэрэсаваныя асобы (—можна ўсім на адной адкрытцы разам) пацьвярдзілі сваё жаданьне формальна адміністрацыі. Два нумары для пашырэньня часова вам высылаем. Апакоўка ў нас вельмі старанная, дык „расьцярушываецца“, відаць, па дарозе. Кандыдатаў ад вас чакаем. Статут вам высланы.

**Атрыманы грошы на падпіску газэты:** ад Т. Івanoўскага 3 зл., Алексы Голгоўскага 2 зл., Грыгора Буцько 1 зл., Базыля Шабуня 1 зл. 30 гр., Констаньтына Чэрніка 1 зл. 20 гр. Ад корпарацыі студ. „Скарынія“ 2 зл.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

Рэдакцыя „Роднага Краю" ад гэтага нумару стварае асобны аддзел пад назовам „Літэратурны Куток". Наплыў у рэдакцыю вершаў і іншых твораў нашых маладых, пераважна вясковых, поэтаў выклікае патрэбу утварэньня гэтага „Кутка". У ім нашыя поэты (якіх цяпер, як грыбоў пасьля дажджу) змогуць друкавацца, а шырэйшая публіка — пазнаёміцца з сучаснай беларускай поэзіяй і плынямі, якія ў ёй праяўляюцца. Апрача таго „Літэратурны Куток" будзе кузьняй, у якой нашыя маладыя поэты будуць узгадоўвацца. У сучасны мамэнт мы ня маем спэцыяльна літэратурнага часопісу. Адзіны часопіс, які ў поўнай меры задаваляў патрэбы беларускае поэзіі, „Нёман", у сапраўднасьці не выпаўняў дагэтуль належна свайго заданьня ў гэтым напрамку. Апрача таго, ён выходзіў рэдка, а ці будзе выходзіць — мы ня ведаем. (Нёман ужо рушыў даўно...). Дзеля гэтага наш „Куток", якога самі поэты будуць кіраўнікамі, як раз і будзе запаўняць гэтую пустку.

Мы разумеем дасканальна труднасьці, у якіх разьвіваецца беларуская прэса. На вёсцы цяпер — галіта. Дзеля гэтага трудна думаць цяпер аб асобным літэратурным часопісу. „Куток" наш дзеля гэтага будзе скромны разьмерамі. Выпаўніць ён аднак, па нашай думцы, важнае заданьне: згуртуе беларускі поэтыцкі маладняк. Спробы стварэньня саюзу бел. поэтаў, гэтак часта робленыя, дагэтуль неўдаваліся. „Літэратурны Куток" будзе лучыць такім чынам сям'ю беларускіх мастакоў слова.

Клічам да супрацоўніцтва ў нашым „Кутку" усіх беларускіх поэтаў!

—·—

* * *

У пэрспэктывах вуліцаў—пусткі.
У небе—чорныя хмары.
Твары —
Шэрыя хусткі —
Калышуцца ўсьцяж на тротуары.
Ціха.
Санліва.
Вечар запаляе вагні —
у тумане.
Гэй, прахожы!
Чалавеча!
Чаго ты такі сумны сяньня?
Муроў маўклівых масы
І сонласьць вячэрніх вуліц —
Пачакай!
Ізноў з часам...
Радасьць сонечная атуліць.

І—ч.

## Кірмаш.

Прысьвячаю К. Мядзёлку.

Мястовым рытмам захаплёны,
Уходжу ў суталку і рух.
Навокал гул і перазвоны
У нейкім віры завірух.

Кірмашны дзень... І пляц базарны
Як муравешнік мільгаціць.
На воз узьлезшы,—„Як задарррма!!!"
Вар'ятам жыд якісь крычыць.

З падпіўшай мінай ладны хлопец
Задорна мучае гармонь:
Эх-ма! На ўсё нам сілы хопіць! —
У вачох іскрыць разгул агонь.

У захапленьні моладзь колам
Скваплiва слухае яго.
У таўпе настрой такі вясёлы, —
Шмат хто забыўся тут пра ўсё...

Далей брыду па брудным рынку.
Кругом—сялянскія вазы.
І, мовы ловячы адрыўкі,
Хапаю сэнс і абразы:

— Карова варта трыццаць злотых....
— Аўса—два злоты—два пуды.
— А боты?
Што каштуюць боты? —
Чуваць зьдзіўленьне і клапоты:
— Вось да чаго мы дажылі!

Скрабуць пад шапкамі сяляне,
Спусьціўшы вочы свае ўніз;
Маркотна ціскаюць плячамі,
І там і сям чуваць: „Крызыс"....

м. Глыбокае, 25. XI. 32. **М. Машара.**

## Вясковыя абразкі.

Ідзе вёскай хлапец п'яны ў „лыка";
На назе адной няма чаравіка.
Мацюгі гоніць проста машынай, —
А ці знае, у якой жыве гміне?
На дзяўчыне блішчаць аксаміты, ·
Цела-ж поўнае тры гады ня мыта....
Па расейску ды польску „гэндае",
А літэру хоць адну ці знае?
Бабка Тэкля лепш ад кушэркі:
Грошы мерыць ня шопляй, а меркай.
Да радзень навакол—па ўсіх сёлах,
А сапраўды яна—чысты олух....
Дзядзька Рыгор—ня з простых мужчына:
Захварэе хай конь ці скаціна,—
Як патрэ рукавіцай ці клешняй,
Перастане хварэці, канешне!
Ой, далёка ня ўсе абразочкі....
Другім разам калі мо', браточкі.

17. XI. 1932 г. **Мікола Засім.**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22